# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 36 (238) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 3 ВЕРАСНЯ 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.

## МАКСІМ ТАНК

* * *

Непакой за цябе, зямля мая,
За твой ураджай і мірны сон,
За дрэва кожнае ў гаях,
За веснiх песень перазвон.
Непакой за цябе, зямля мая, —
Мой хлеб надзённы.

Часамі ён горкі ад пылу быў,
Часамі салёны ад слёзаў быў,
Часамі гарачы ад пораху быў,
Але і салодкі ад дружбы быў
Мой хлеб надзённы.

І не кладзіце мне хлеб другі
У кайстру, калі я ў дарогу іду,
На стол, калі бяседу вяду,
На сэрца, калі на ім рукі складу.



НА ПЕРШЫМ УРОКУ АРЫФМЕТЫКІ

## ПЕРАД ПЕРШЫМ ЗВАНКОМ

Мінуў бестурботны час канікул, час заслужанага адпачынку і летніх прыгод. Школы ізноў вітаюць гаманлівую дзетвару, якая пачынае свой новы, чарговы год напружанай працы. У многіх школах нашай краіны заняткі пачнуцца ўпершыню. Агульнымі ж намаганнямі цэлага грамадства штогод уступаюць у эксплуатацыю новыя школьныя будынкі — помнікі Тысячагоддзя.

1 верасня — гэта святочны дзень у жыцці школы. Паглядзіце толькі навокал сябе: усюды нейкі ўрачысты настрой, вучні і вучаніцы прыгожа апрануты, у руках букеты кветак... Але вось заўтра ўжо трэба адчыніць кніжку і адправіцца ў хвалюючае падарожжа за новымі ведамі, без якіх нельга жыць у наш цікавы час.

Колькі ж ізноў спатрэбіцца старанасці і ўседлівасці, а часам нават мужнасці, каб рашыць нейкую складанейшую матэматычную задачу, або вывучыць напамяць доўгі верш. Навука — гэта ж вельмі адказны абавязак і самаадданая праца. Узнагародай за поспехі ў ёй з'яўляюцца добрыя адзнакі.

Паміж «Нівай» і вучнямі беларускіх школ на Беласточчыне ўстанавілася добрая традыцыя — пастаянна перапісвацца. Мы ўпэўнены, што і ў гэтым годзе яна будзе працягвацца.

З выпадку новага навучальнага года ўсім настаўнікам і вучням жадаем ад щчырага сэрца самых найлепшых поспехаў у працы і наву-

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## У ДАРОЖКАХ 28 ЦЭНТНЕРАЎ З ГЕКТАРА

Аб сёлеташнім ураджаі гутарым з рахункаводам спулдзельні прадукцыйнай у Дарожках, Беластоцкага павета, Аляксандрам Вішнеўскім.

**— Як праходзіла жніво на палях вашай спулдзельні?**

— Хаця надвор'е было наогул неспрыяючае, аднак жніво ў нас праходзіла нядрэнна. Каля 20 гектараў сабралі камбайнам. Камбайн наш карыстаўся папулярнасцю і сярод аднаасобнікаў. Шмат сялян вельмі ахвотна наймалі яго ў нас.

**— Які сёлеташні ўраджай у спулдзельні?**

— Цудоўны. Абмалацілі частку жыта, дык выдала 25 цэнтнераў з гектара. У сярэднім ураджай жыта будзе не менш 22 цэнтнераў з гектара. Гэтакі ж ураджай і аўса. А пшаніцы азімай атрымалася ў сярэднім па 28 цэнтнераў з гектара. Параўноўваючы сёле-

(Працяг на стар. 4.)

У БЕЛАСТОЦКІМ МУЗЕІ АДКРЫТА ВЫСТАЎКУ НАРОДНАГА МАСТАЦТВА БЕЛАСТОЧЧЫНЫ, САРГАНІЗАВАНУЮ Ў ГОНАР ТЫСЯЧАГОДДЗЯ ПОЛЬСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ. ВЫСТАЎКА АДКРЫТА БУДЗЕ ДА КАНЦА ВЕРАСНЯ. АБ ГЭТАЙ ЦІКАВАЙ ВЫСТАЎЦЫ ПІШАМ НА СТАР. 3.



У ГАДАВІНУ ВЕРАСНЯ

## ГАРАНТЫІ ДЛЯ Польшчы

УЛ. ЛАЗІНСКІ

25 жніўня 1939 года былі выданы загады, паводле якіх гітлераўскія войскі мелі ўжо наступнага дня, н.. світанні, атакаваць Польшчу. У пачатку красавіка 1939 г. Гітлер і галоўнакамандуючы арміяй генерал Кайтэль падпісалі дакументы, якія мелі крыптанім «Фаль Вайс». Яны выразна гаварылі аб знішчэнні Польшчы, як дзяржавы. Пазнейшыя выступленні Гітлера, у маі і жніўні 1939 г., не пакідалі ніякіх сумненняў, што тут разыходзілася аб Гданск, ці аўтастраду праз т. зв. паморскі «калідор», але мэтай было «знішчэнне жывых сіл працаўніка». Зрэшты, сам Гітлер на тайнай канферэнцыі генералаў, якая адбылася 22 жніўня, адкрыта сказаў, што асноўным заданнем вайны з Польшчай павінна быць поўнае знішчэнне яе.

Чаму ж, аднак, вайна не выбухнула 26 жніўня, але на тыдзень пазней? Менавіта, 25 жніўня брытанскі ўрад ратыфікаваў заключаны з Польшчай пакт аб дапамозе. Гітлер, даведаўшыся аб гэтым вечарам, адмяніў выданыя ўжо загады. Калі б, урэшце, Вялікабрытанія захацела супольна з Францыяй выканаць свае абавязацельствы і аказаць Польшчы мілітарную дапамогу, тады б сітуацыя Германіі поўнасцю змянілася. Гэта прымусіла б Гітлера ваяваць на двух франтах, чаго ён вельмі не хацеў, таму што не адчуваў сябе належным чынам падрыхтаваным.

(Працяг на стар. 2)

# ГАРАНТЫІ ДЛЯ ПОЛЬШЧЫ

(Працяг са стар. 1)

Аднак ваганні Гітлера не працягваліся доўга. Ён на працягу некалькі дзён пераканаўся, што Вялікабрытанія не намерваецца выступіць, што «па пытанню аб калідоры Англія была ў асноўным гатова паразумецца з Германіяй». Аб гэтых намерах Англіі гаварыў у час Нюрнбергскага працэсу шведскі прамысловец Дагльрэус, які яшчэ 5 хвілін перад выбухам вайны спрабаваў давесці да мірнай канферэнцыі накшталт мюнхенскай, што ў сваю чаргу азначала б перакрэсленне тэрытарыяльнай інтэгральнасці Польшчы. Аб двудушнасці брытанскай палітыкі сведчыць таксама змест ліста тагачаснага міністра замежных спраў Вялікабрытаніі лорда Галіфакса, накіраванага 27 жніўня 1939 г. Гітлеру, у якім ён піша, што «каралеўскі ўрад жадае давесці да мірнага вырашэння». Такую самую пазіцыю заняў у сваім лісце ад 26 жніўня французскі прэм'ер Даладзе. Такім чынам Гітлер прышоў да вываду, што ніхто не спяшаецца аказваць Польшчы вайсковую дапамогу. Калі 1 верасня 1939 г. асноўныя сілы яго арміі напалі на Польшчу, на заходняй граніцы Германіі не пачуўся ніводзін выстрал, нягледзячы на тое, што насупраць слабых нямецкіх прыгранічных пастоў знаходзілася каля ста французскіх і брытанскіх дывізій.

Польшча надта ж дорага заплаціла за сваю палітыку давер'я спярша Гітлеру, а пасля заходнім саюзнікам. Палітычная слепата санацыі неаднаразова падвяргалася вострай крытыцы. І вось яшчэ раз трэба звярнуць увагу на адну з крыніц вераснёвай трагедыі — на лютую нянавісць санацыйных палітыкаў да Савецкага Саюза. Лёсы другой сусветнай вайны маглі б зусім інакш выглядаць, калі б санацыйны ўрад прыняў савецкую прапанову аб мілітарнай дапамозе. Захаваліся стэнаграмы размоў маршала Варашылава з брытанскім адміралам Драксам і французскім генералам Думенсам, праведзеных у Маскве ад 12 да 21 жніўня 1939 г. аб неабходнасці наладжання супольнага антыгітлераўскага фронта. Адзначым, што гэтыя прадстаўнікі Захаду не атрымалі ад сваіх урадаў паўнамоцтваў, каб прыняць нейкія абавязацельствы, што выразна сведчыла аб несур'ёзным падыходзе Захаду да маскоўскай канферэнцыі. Варта прыгадаць з гэтай стэнаграмы тыя фрагменты, у якіх гаворыцца аб Польшчы.

«Маршал Варашылаў: Пане генерале, пане адмірале, мяне цікавіць наступная справа...: Ці генеральныя штабы Вялікабрытаніі і Францыі прадбачваюць, што савецкія сухапутныя сілы будуць прапушчаны праз тэрыторыю Польшчы, каб маглі непасрэдна сутыкнуцца з ворагам, калі выступіць ён супроць Польшчы?... Гэтыя пытанні мяне найбольш цікавяць. (Адмірал Дракс вядзе даўжэйшую размову з ген. Думенсам).

Генерал Думенс: Мяркую, што Польшча і Румынія будуць маліць вас, пане маршал, каб аказаць ім дапамогу.

Маршал Варашылаў: А можа не будуць?»

Маршал Варашылаў не памыліўся. Санацыйная Польшча не хацела саюза з СССР, а заходнія саюзнікі нічога не зрабілі, каб у гэтай справе дапамагчы. Вядома ж урэшце, што ў сваіх стратэгічных планах заходнія саюзнікі не прадбачвалі кааліцыі з савецкай дзяржавай супроць гітлераўскай Германіі. Тут разыходзілася аб тое толькі, каб як мага шпарчэй апынуліся насупраць сябе дзве дзяржавы — Германія і Савецкі Саюз, каб Гітлер без затрымкі напаў на СССР; Польшча ж была тут толькі нічога не значачай пешкай у вялікай справе, якой было знішчэнне сацыялістычнай дзяржавы.

Надзеі Вялікабрытаніі і Францыі не здзейсніліся, а пакуль што ахвярай гэтых планаў аказалася Польшча, пазбаўлена рэальнай дапамогі, якая магла толькі прыйсці з Усходу.

*

У 22 гадавіну верасня варта звярнуць увагу на пытанне рэальных і нерэальных гарантый для Польшчы. 22 гады таму назад заходнія гарантыі аказаліся звычайнай утопіяй. Аднак пасля такой трагічнай лекцыі, якой была другая сусветная вайна, мы прышлі да правільных вывадаў. Зараз, калі ў Заходняй Германіі адраджаюцца мілітарысцкія і рэваншысцкія сілы, узгадаваныя на гітлераўскіх традыцыях, вялікага значэння набывае саюз Польшчы з сацыялістычнымі краінамі, яе ўдзел у абароннай Варшаўскім пакце. Сённяшнія гарантыі для Польшчы азначаюць нашую поўную незалежнасць і інтэгральнасць. Гэта гарантыі захавання міру ў Еўропе.

УЛ. ЛАЗІНСКІ

# ТУРЫСТЫЧНЫЯ УРАЖАННІ

ВІКТАР ШВЕД

Экскурсія з Беластока выклікае ў Кракаве небывалае здзіўленне. «Так здалёк вы прыехалі», — чуліся галасы прахожых. Падыходзілі да нас і даўнія жыхары Беластока, якія некалькі год таму пакінулі наш горад, а да якога адносяцца з пашанай і сімпатыяй. У нас, Беласточчан, пабыўка ў даўняй сталіцы Польшчы выклікае зразумелае зацікаўленне. Адусюль вее тут старыной. Кожнага экскурсанта перш за ўсё вабіць да сябе гістарычная сядзіба каралёў — Вавэль. Тут цешаць вока бясцэнныя арасы, тут у падзямеллях катэдры спачываюць ужо сотні год польскія каралі, тут побач ляжаць карыфеі польскай літаратуры Адам Міцкевіч і Юльюш Славацкі. Не былі ў згодзе за жыцця, дык пагадзілі іх пасля смерці. Падымаемся на высокую вежу, на якой умацаваны аграмадны 18-тонны звон Зыгмунта. У доказ нашай пабыўкі на Вавэлю зрабілі памятны здымак на фоне кафедры.

Надзвычайнае ўражанне робіць на ўсіх нас славуты алтар Віта Ствоша ў касцеле Марыяцкім. Пасля выхаду з касцёла наш экскурсавод дэманструе ланцугі, прымацаваныя да сцен пры ўваходзе ў касцёл, у якія быццам бы калісьці закоўвалі жонак багатых мяшчан за здраду сваіх мужыкоў. «Каб так сёння», — уздыхнуў за маімі плячыма нейкі малады мужчына, які затрымаўся ля касцёла. Ля сцен старыннага Ягелёнскага універсітэта, пабудаванага яшчэ каралём Польшчы Казімірам Вялікім у 1364 годзе, сустрэліся мы выпадкова з урадавай дэлегацыяй Ганы на чале з яе прэзідэнтам Квамэ Крумаг.

Пакідаем Кракаў з яго высачэзнымі 58 касцёламі і напраўляемся ў Закапанэ. У меру набліжэння да гэтай маляўнічай горнай мясцовасці ўзрастаюць у нас турыстычныя зацікаўленні.

Добрае надвор'е. Любуемся прыгожымі краявідамі, раскінутымі паабапал крутой шасейнай дарогі.

Чым далей аставаўся за намі Кракаў, тым краявіды былі больш разнастайнымі. На гарызонце паказаліся высокія чорныя масівы — Татры






— Таварыш камандзір, матацыклісты! — убегшы ў хату крыкнуў Шпакаў.

— Дзе? — устаў з-за стала Мінай, які разам з камісарам і Галубавым вячэраў у знаёмага калгасніка.

— У дзесяці кіламетрах, у Стволкаве.

— Шмат іх? — спытаў Шкрэда.

— Ды не, чалавек шэсцьдзесят...

— Рычард, — сказаў Мінай, — вазьмі байцоў Пічагурава і давай у Стволкава, а мы з Галубавым заскочым у лагер: трэба папярэдзіць Палубінскага. Сустрэнемся на ўскраіне лесу, дзе крыж.

Гадзін у пяць раніцы яны прыбылі ў лагер. У зямлянцы Галубава, пакуль той збіраў хлопцаў, Мінай задрамаў. Але тут жа прачнуўся і ўставіўся на дзверы амаль перапалоханымі вачыма.

81

Яму здалося, быццам не ў зямлянку, а ў хату яго маці, дзе былі цяпер дзеці, раптам увашоў малады, з нахабнымі блакітнымі вачыма Фаменкаў і, апершыся аб сцяну, стаіць і глядзіць з лютай злосцю на анямелую перад ім Лізу. І ў руцэ ў яго гадзюкай уецца пераплецены дротам гумовы бізун... Ох, Васька, няма ад цябе Шмыраву спакою. Блохіна гаварыла, што ўцёк, падла, з гарэўшай хаты і зноў лютуе. Трэба, насупраць усяму трэба знішчыць гэту гадзюку...

...У поўдзень вярнуліся партызаны, якія хадзілі пад Стволкава.

— Ніякіх матацыклістаў там няма! — сказаў Шкрэда. — Падаліся на поўнач, у Полава. Мы сунуліся туды, ды іх там звыш батальёна. Пастралялі і павярнулі назад.

— А задачу іх высвятлілі? — спытаў Мінай.

— Пакуль нічога невядома. Галубаў разведку паслаў.

У той жа дзень група партызан на чале з камсамольцам Маскалёвым накіравалася ў вёску Галевічы. Тут жанчыны пяклі для атрада хлеб. Не апасаючыся засады, партызаны на дзвюх фурманках уехалі ў вёску, якая ўразіла іх нязвыклай цішынёй. Западазрэўшы дрэннае, байцы хацелі павярнуць назад, як раптам па іх ва ўпор ударыў фашысцкі кулямёт. Пярэдні конь адразу ўпаў, другі ўзвіўся на дыбы і перавярнуў фурманку. З яе вываліўся паранены ў абедзве нogі Маскалёў.

82

Таварышы яго былі ўжо забітыя. Маскалёў намагаўся адпаўзці ў роў, але на яго наваліліся карнікі, скруцілі рукі і павалаклі ў хату.

Неўзабаве прышоў фельдфебель і адразу патрабаваў, каб камсамолец расказаў, дзе знаходзіцца партызанскі лагер.

Доўга мучылі яны партызана.

— Нічога не скажа! — сказаў раз'юшаны фельдфебель. І, падышоўшы да паўпрытомнага Маскалёва, усунуў яму ў рот дула пісталета...

Партызан паварухнуўся, з цяжкасцю адкрыў падбітыя вочы і з такою нянавісцю паглядзеў на свайго ката, што ў таго ўздрыгнула рука. Фельдфебель зажмурыўся і націснуў на спуск...

83

...На другі дзень у лагер вярнуліся разведчыкі. Ад жыхароў Галевіч яны даведаліся падрабязна аб смерці Маскалёва, а самі высвятлілі, што эсэсаўцы з'явіліся ў Ноўцы і ў Паўлаве, у Астраўскім і Заполлі. Ва ўсіх гэтых вёсках размясціліся штабы карнікаў. Уся зона Шчэлбаўскіх лясоў аказалася блакіраванай фашысцкімі войскамі!

*

Здалёк пачуўся гарматні выстрал.

— Разведку пасылаю на Шчэлбава, — сказаў Мінаю начальнік штаба. — Пойдуць Палубінскі, Кравец і з імі шэсць чалавек.

На світанні Палубінскі вярнуўся. Разведчыкі неслі на насілках ранenага.

— Хто гэта? — спытаў Мінай.

— Кравец. У жывот трапіла.

— Як гэта здарылася? — глуха спытаў камандзір.

— На засаду нарваўся... Падышлі мы да Шчэлбава, бачым, усе вуліцы забіты немцамі. З імі дзве гарматы і танкетка. Я вырашыў абысці пасёлак і паслаў Краўца і Смірнова наперад. А ў лесе засада. Напароліся...

84

 



## ВЕРАСЕНЬ

Першага верасня мінула 22 гады, як пачалася другая сусветная вайна, як гітлераўская Германія напала на нашу краіну. Успаміны страшлівых дзён вельмі жывыя ў людзей і сёння. Многа здзекаў пацярпеў наш народ, многа вырвала вайна нам людзей найбліжэйшых і найдаражэйшых.

Нямецкія варвары бязлітасна нішчылі мірнае насельніцтва. Расстрэльвалі ўсіх: дзяцей, старых, жанчын і г. д. Нашае грамадства свята ўшаноўвае месцы расстрэлаў, братнія магілы, якіх вельмі многа на тэрыторыі ўсёй краіны.

Адным такім месцам масавых расстрэлаў з'яўляецца Піліцкі лясок, непадалёку ад Бельска. Там нямецкія вырадкі замучылі 678 чалавек. Сярод расстрэленых былі зусім старыя людзі, як, напрыклад, шасцідзесяцігадовы настаўнік Тадэуш Яроньскі. Тут расстрэлены былі сем'і з малымі дзецьмі. Вось некалькі прозвішчаў дзяцей: пяцігадовы Збігнеў Касінскі, пяцігадовая Аня Бужынская, трохгадовы Антон Залеўскі і яго двухгадовая сястрычка Дануся, якая была на руках у маці.

У дваццаць другую гадавіну вераснёўскіх дзён вяртаемся памяццю да тых усіх, якія загінулі з рук нямецкіх захопнікаў. Ушаноўваем памяць аб іх нашай працай, нашымі змаганнямі за лепшую будучыню, каб нашае пакаленне і наступныя пакаленні вызваліць ад пагрозы паўтарэння вераснёўскіх дзён. (мх)

На здымку: помнік расстрэленым у Піліцкім лесе.

Фота: Г. Рагазінскі

МАЦЕЙ КАНАПАЦКІ

# СПРАВЫ АДНОЙ ГРАМАДЫ

Калі я апынуўся ў памяшканні ГРН Грыгораўцы, дык ужо ад самай раніцы панавала тут дзелавая атмасфера — наладжваліся розныя справы, званіў тэлефон, працягваліся ажыўленыя размовы энергічнага сакратара грамады Антона Уласюка з наведвальнікамі. Вось старшыня ГРН А. Ляшчынскі нейкаму гаспадару доўга тлумачыў, што ён павінен урэшце пагасіць сваю запазычанасць. Значыць, размова датычыць самога далікатнага пытання — грашовага. А Ляшчынскі ўвесь час гаворыць спакойна, з тактам, а часам нават уставіць нейкі жарт, выклікаючы ў заклапочанага селяніна ўсмешку. Спраў у старшыні было столькі, што мне не хутка ўдалося з ім пагаварыць. Ды і наша размова працягвалася вельмі коратка, таму, што неўзабаве А. Ляшчынскі мусіў недзе ехаць...

Перш за ўсё я пацікавіўся школьным пытаннем (гэта ж быў ужо канец жніўня). Аказваецца, на 1962 год запланавана пабудаваць у Грыгораўцах сямікласную школу. Старая школа, у Пашкоўшчыне, змяшчаецца ў дзвюх хатах і патрабуе капітальнага рамонту. Пакуль што ў жніўні праводзіўся рамонт дахаў. Калі разыходзіцца пра школьныя справы, дык варта тут адзначыць аб паспяховым зборы грошай у вёсках на грамадскі фонд пабудовы школ. У гэтым годзе сяляне сабралі ўжо 10 тысяч зл. За адну толькі нядзелю — 13 жніўня — сабрана 3.300 зл. Найлепш справіліся з гэтым абавязкам сяляне з вёскі Пашкоўшчына.

У ГРН Грыгораўцы жыхары дацэньваюць справу супольнай гаспадаркі. А вось прыклады. У ліпені г.г. у Пашкоўшчыне быў заснаваны сельгасгурток, у які ўступіла 15 сялян, а ў Чэхах Заблотных 10 гаспадароў згадзілася арганізаваць сельгасгурток. Таксама ў Вульцы Выганоўскай сяляне абмяркоўваюць зараз справу заснавання гуртка. Найстарэйшымі сельскагаспадарчымі гурткамі ў грамадзе з'яўляюцца гурткі ў Градалях (27 членаў) і Маскоўцах (17 членаў). Нядаўна яны набылі 2 абмалотачныя агрэгаты. Абслугоўвае іх Рыгор Анташук, які ў гэтым годзе закончыў курс трактарыстаў у Бельску. Р. Анташук б'е свайго роду рэкорд, абслугоўваючы штодзень пры абмалотачных працах 5 гаспадарак. У ГРН Грыгораўцы няма пакуль што трактара, аднак аб неабходнасці яго набыцця сур'ёзна пачынаюць гаварыць сяляне.

Сярод тутэйшых сельгасгурткоў добрай гаспадаркай вылучаецца гурток у Градалях. Дзякуючы руплівасці яго кіраўніцтва, нядаўна на станцыю Грыгораўцы быў дастаўлены цэлы вагон грануляванага суперфасфата. Усе сельгасгурткі атрымалі ўжо належную ім долю гэтага каштоўнага ўгнаення. Вясною гэтага года ГРН атрымала 40 тон вапны. Горш выглядае справа з азотнымі ўгнаеннямі. Некаторыя сяляне яшчэ недаацэньваюць іх вартасці. На гэта звярнуў увагу ў размове са мной мясцовы аграном Іван Каўнер. Дарэчы, пра агранома. Дагэтуль ГРН Грыгораўцы не мела свайго агранома. Зараз жа з'яўляецца ім І. Каўнер, які працуе тут ужо год. Аграном наракаў на вельмі слабую пашавую базу ў грамадзе, што ў сваю чаргу не спрыяе паспяховаму разгортванню жывёлагадоўлі. Зараз, штодзень, у злеўню малака ў Градалях сяляне дастаўляюць 300 літраў малака. А паводле меркаванняў агранома можна было б дастаўляць штодзень да 1200 літраў. Зразумела, што гэта можа стаць рэчаіснасцю, калі жывёла будзе мець удоваль высакаякаснай пашы. Асноўнай прычынай яе недахопу з'яўляецца тутэйшая балоцістая мясцовасць. Толькі ў мінулым годзе, як адзначыў І. Каўнер, былі зроблены першыя крокі ў напрамку меліярацыі. Давядзецца яшчэ нейкі час пачакаць, пакуль пытанне пашы паспяхова вырашыцца.

Гаварылася ўжо, што сельгасгурток у Градалях з'яўляецца самым ініцыятыўным у грамадзе. Доказам гэтага хай будзе пабудова градалёўцамі ў мінулым годзе вясковай святліцы і малачарні. Грошы на гэтыя інвестыцыі сяляне ўзялі з даходаў свайго сельгасгуртка.

У грамадзе Грыгораўцы нядрэнна выглядае справа з сельскагаспадарчай адукацыяй. У Малінніках існуе школа сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, якую наве-

(Працяг на стар. 7)

(Працяг са стар. 1)

ташні ўраджай з мінулым гадам, дык ён прынамсі на тры цэнтнеры з гектара большы і ў сярэднім складзе 23 цэнтнеры.

**— Як у гэтым годзе выглядае структура пасеваў у спулдзельні?**

— Яна шмат змянілася на карысць кармавых і прапашных раслін. Сёлета збожжавыя ў структуры пасеваў занялі ўсяго толькі 49% зямельных угоддзяў. За іх кошт мы ўсё больш вырошчваем матыльковых і другіх кармавых раслін.

**— З гэтага можна лічыць, што спулдзельня ваша бярэ**

## У Дарожках 28 цэнтнераў з гектара

**галоўны напрамак на развіццё жывёлагадоўлі?**

— Так. Зараз наш спулдзельчы статак налічвае 50 штук жывёлы, у тым 18 дойных кароў. Сёлета маем намер купіць яшчэ 10 парадзістых цялушак і аднаго бычка. Набліжаемся да рэалізацыі свайго намеру — утрымоўваць адну штуку жывёлы на гектар зямельных угоддзяў.

**— А як выглядае малочнасць спулдзельчых кароў?**

— За першыя шэсць месяцаў гэтага года мы ў сярэднім атрымалі па 1229 кілаграмаў малака ад аднэй каровы. У канцы года прадбачваем атрымаць не менш дзвюх з паловай тысяч кілаграмаў малака ад адной каровы. Гэта на 500 кілаграмаў больш чым у мінулым годзе.

**— Які прадбачваеце ўраджай бульбы і цукровых буракоў?**

— Спадзяемся атрымаць бульбы ў сярэднім не менш 200 цэнтнераў з гектара і цукровых буракоў 350 цэнтнераў з гектара.

**— Дзякуем і жадаем далейшых поспехаў у сельгасвытворчасці амбітным членам спулдзельні прадукцыйнай у Дарожках. (вб)**

РЭФЛЕКСІІ НАД СУЧАСНАСЦЮ ВЁСКІ

# ШУКАЮ СЫНА ВЁСКІ

Шукаю сына нашай вёскі. Шукаю яго ўпарта скрозь і ўсюды. Шукаю яго і ў натоўпе сялянскіх сходаў, і ў свабодных гутарках на вуліцах, сярод сяброў пры гасцінным сялянскім стале і сярод таварышаў цяжкай працы на сялянскай ніве. Цудоўны яго вобраз нашу ў сваіх вачах. Ён — натуральнае прадаўжэнне сялянскай традыцыйнай прывязаннасці да зямлі, увасабленне любві да працы земляроба; яго мары і думкі аб тым, каб быць «добрым гаспадаром» у традыцыйным разуменні гэтага слова.

*

Памяць рысуе непрыемныя ўспаміны асабістых вопытаў адносна працы ў вясковым асяроддзі.

Прабую арганізаваць школу сельскагаспадарчай падрыхтоўкі ў роднай вёсцы. Раблю сход моладзі, на які прышло некалькі хлапцоў і адна дзяўчына. Тлумачу ў чым справа, заахвочваю, як умею. Хлопцы ўсміхаюцца, потым ціха разыходзяцца дамоў. Адчуваю, што «не туды п...ў». Нікога гэта не цікавіць.

Некалькі месяцаў пазней у позні асенні вечар вяртаўся я з горада да дому. Вокны ў школе зіхацелі электрычным святлом. Падышоўшы, убачыў я ў школе небывалы натоўп людзей, асабліва моладзі. Школьная зала запоўнена, адкрытыя дзверы, людзі на калідоры і ў наступнай зале. Нягледзячы на натоўп і цяжкую атмасферу, у зале цішыня, як бы «макам засеяў». Толькі голас выкладчыка гучаў цвёрда і ўпэўнена. У школе адбываўся «матацыклавы курс».

І я падумаў: сярод гэтых апанаваных «дэманам матарызацыі» не знайду таго, чаго шукаю. У іх іншыя думкі, іншыя мары.

Матацыкл. Аб ім з паэтычным узлётам пішуць маладыя людзі з вёскі.

«— Што б ты купіў, калі б меў 10 000 зл?»

«— Матацыкл, — адказвае малады вясковы хлапец. — Ён з'яўляецца адзінай маёй марай.»

«— Адзіная мая мара — матацыкл. Яна не дазваляе мне аб чым іншым і думаць.»

«— Матацыкл я бачу штоноч у сваіх снах».

Адзін з маладых 16-гадовых хлапцоў папаўняе вобраз сваёй мары наступным:

«Стаю ў Закапаным, любуюся прыгажосцю гор, фатаграфую направа і налева, а каля мяне стаіць мой матацыкл, на якім ляжыць апарат «Шаротка».[1])

*

Бацькі Колі маюць 6 гектараў зямлі. Яны ўжо зусім старэнькія і ледзь увіхаюцца ля гаспадаркі. На гаспадарцы моцна адчуваецца недахоп здаровых рук. Паваленая агарожа, амшэлая страха, сама хатанька нізенькая, пахіленая; у хаце гліняная «падлога». Коля мае 24 гады. Пасля сканчэння 18 год ён рэдка бываў дома: ездзіў у Беласток, на «Захад» у шахту і г.д. Да дому прыязджае толькі ўлетку, у час цяжкіх палявых работ. Коля мае малодшага брата, які пачынае весці такое ж як і ён жыццё. Маецца ўражанне, што таксама Колю, як і яго брата, мала цікавіць старая страха, паламаны жалезны воз і іншыя вялікія недахопы ў гаспадарцы. Як толькі «злезецца» з поля, Коля думае зноў паехаць кудысьці на працу. За зробленыя грошы ён плануе купіць сабе матацыкл.

*

У памяці перасоўваецца дзесяткі маладых людзей, якіх думкі і погляды вядомыя мне. Вельмі мала сярод іх такіх, якія не хочуць выязджаць «у свет», якія не ставяць таго жыцця вышэй вясковага жыцця. Вельмі мала тых, якія думалі б жыць толькі з плёну працы на гаспадарцы, якія пакахалі б працу селяніна, вёску і яе жыццё. Маладыя людзі з лёгкім сэрцам пакідаюць родны дом. Едуць «куды вочы панясуць».

У вёсцы В. два месяцы таму гурток ЗМВ налічваў звыш 20 членаў, зараз жа ёсць толькі тры члены ЗМВ. Рэшта раз'ехалася па свеце. У Р. — наадварот. Усе чамусьці з'ехаліся, уносячы ў жыццё вёскі пэўнае ажыўленне. Арганізавалі гурток ЗМВ, БГКТ, ЛьЗС і іншыя, пачалі арганізаваць забавы, стварылі мастацкі гурток, унеслі пэўныя цікавыя ініцыятывы.



 



ВОСЬ ЯКІЯ МЫ, БЕЛАВЕЖСКІЯ!

Фота: Мікола Тарасевіч

# БЕЛАРУСКІЯ ПУСТЫНІ

У далёкія часы, яшчэ да ўзнікнення егіпецкай культуры, ужо існавалі жыхары Сахары эфіопы. У часы росквіту асіра - вавілонскай культуры ўспамінаюцца не раз патаемныя жыхары пустынь мідзяне. Першыя вядомыя нам утварэнні дзяржаў у сярэдняй Азіі Бактрыяна, Сагдзіяна і іншыя мелі суседзямі страшных суровых вандраўнікоў, што насялялі Кара - Кумы, Кызыл - Кумы, Прыбалхашша.

Старажытную Кітайскую імперыю, гісторыя якой уходзіць далёка за межы гісторыі іншых краін, насялялі неспакойныя, небяспечныя жыхары пустынь. Відавочна, што іменна з прыручэннем хатніх жывёл, калі для статкаў жывёлы, якія ўсё больш разрасталіся, стала не хапаць пашы ў далінах рэк, чалавек упершыню ступіў у пустыню.

**У сваім выдатным творы «Дыялектыка прыроды» Фрыдрых Энгельс пісаў: «...Людзям, якія ў іншых месцах выкарчоўвалі лясы, каб здабыць такім шляхам ворную зямлю, і не снілася, што яны паклалі пачатак цяперашняму спусташэнню гэтых краін, пазбавіўшы іх разам з лясамі цэнтраў збірання і захавання вільгаці».**

Вялікія плошчы пясчаных глеб (звыш 400 тысяч гектараў) ёсць і ў Беларусі. Гэта своеасаблівыя пустыні. Яны не выкарыстоўваюцца ў сельскай гаспадарцы. Значная плошча такіх зямель ёсць на Гомельшчыне.

Усяго ў Гомельскай вобласці зарэгістравана каля 140 тысяч гектараў пясчаных пустэч. Беларускія пустыні ў асноўным размешчаны побач з далінамі рэк, але сустракаюцца і ў выглядзе дзюнных узгоркаў, вузкіх град і асобных участкаў. Па свайму стану яны бываюць: задзярнелыя, паўзадзярнелыя і сыпучыя. З агульнай плошчы пяскоў БССР да катэгорыі сыпучых (на якіх адсутнічае раслінчасць і таму яны здольны перасоўвацца) адносіцца звыш 100 тысяч гектараў.

Такія пяскі характарызуюцца вельмі нізкай урадлівасцю. Гэтыя землі зусім непрыгодны для вырошчвання сельскагаспадарчых культур, бо ўтрыманне гліны ў іх не перавышае 7 працэнтаў, а ўзровень грунтовых вод знаходзіцца не ніжэй 1,5 метра. Вось чаму гэтыя голыя пясчаныя плошчы і з'яўляюцца пустэчамі.

Сыпучыя пяскі наносяць значную шкоду эканоміцы рэспублікі. Рухаючыся пад дзеяннем ветру, яны засякаюць маладыя пасадкі на прылягаючых да іх землях, засыпаюць сумежныя з імі ворныя і сенакосныя ўгоддзі, сады і гароды. У некаторых месцах яны нават наступаюць на населеныя пункты.

Вялікую ахоўную ролю адыгрываюць лясныя насаджэнні. Так, напрыклад, дрэвастоі Цешкаўскай лясной дачы Белабярэжскага лясніцтва, Нараўлянскага лясгаса Гомельскай вобласці засыпаны ў асобных месцах больш чым на 1,5 метра. Аднак яны стрымліваюць наступленне пяскоў.

Непрыгодныя для сельскай гаспадаркі пясчаныя пустэчы здаўна асвойваліся шляхам аблясення. Найбольш адпаведнай пародай для гэтага ў Беларусі з'яўляецца сасна звычайная, якая развівае глыбокі стрыжневы корань.

За апошнія гады аблесена каля 30 тысяч гектараў пяскоў.

# ПЧАЛА БОЛЬШ НЕБЯСПЕЧНАЯ ЧЫМ ГАДЗЮКА

Добра вядомы міф аб Ахілесе, герої старажытнай Грэцыі, сыну марской багіні Феціды і прастога смертнага Пелея. Клапочучыся аб будучыні свайго малога, багіня выкупала яго ў водах свяшчэннай ракі Сцікс, і Ахілес зрабіўся непаражальным. Толькі адно месца засталося сухім — пятка, за якую трымала будучага героя маці. Менавіта ў яе, у славутую паражальную ахілесавую пятку, і накіраваў сваю стралу траянец Парыс, які забіў Ахілеса.

Ахілеса нашых дзён завуць Алан Гарлтон. Гарлтон займаецца «гадзюкавым бізнесам». Ён дастае з іх смяротных зубоў яд, неабходны для прыгатаўлення супрацьяддзяў.

У час небяспечнай працы (а ў Гарлтона былі дні, калі ён аднімаў яд у чатырох сотняў гадзюк) заўсёды трэба быць напагатове. Гадзюка кусае маланкава, і не дзіўна, што за сваю доўгую працу Алан Гарлтон быў укушаны дзевятнаццаць раз. Зразумела, у кожным з гэтых выпадкаў яго лячылі збавіцельнай супрацьгадзюкавай сывараткай. У выніку імунітэт Гарлтона за кожным разам рабіўся ўсё вышэйшым і вышэйшым. Неўспрымлівасць да яду асягнула такую высокую ступень, што лекары палічылі яе звышімунітэтам і назвалі хваробай.

Здавалася б такая «броня» вельмі выгадна для ўтаймавальніка гадзюк, але хвароба прывяла да небяспечных змяненняў у крыві Алана.

Цяпер яму трэба берагчыся пчалы ці любога іншага насякомага, пры ўкусе якога ў кроў трапляе мурашыная кіслата. Калі гэтая кіслата трапіць у кроў Гарлтона, і яе няўстойлівая раўнавага акажацца парушанай, гэта прывядзе да фатальных вынікаў. Укус пчалы можа яго забіць: такая ахілесавая пятка Гарлтона.

Але ён усё ж ухітрыўся перанесці ўжо тры ці чатыры такіх укусаў, адкараскаўшыся толькі абмарокамі. Гарлтон увесь час «у поўным узбраенні»: не растаецца са сваім шпрыцам для падскурных упрысківанняў, жгутам, супрацьяддзем і стымулятарам сардэчнай дзейнасці. Калі яго сэрца будзе біцца, пакуль не кончыцца згубнае дзеянне кіслаты, ён застанецца жывым.

Так пчолы сталі для чалавека больш небяспечнымі, чым гадзюкі!

# ТЭЛЕВІЗІЙНЫ ДЫЯГНОЗ



**У Парыжы адбылася вельмі цікавая тэлевізійна-медычная «прэм'ера». Пацыенты парыжскай бальніцы атрымалі адначасовы дыягноз на адлегласць, выдадзены трыма лекарамі з Бруселя, Мілана і Мюнхена, пры дапамозе тэлебачання. Кабінет, у якім знаходзіліся хворыя, абсталявана тэлевізійнымі камерамі, спалучанымі з апаратам Рэнтгена.**

## РЭЦЭПТЫ КУХАРА

### Бульбяныя пампушкі

Адварыць бульбу ў салёнай вадзе, ачысціць яе, астудзіць, працерці праз рэшата: на поўную талерку працёртай бульбы пакласці 2 яйкі, 2 сталовыя лыжкі смятаны, крыху солі, 3—4 лыжкі мукі, змяшаць усё так, каб утварылася негустое цеста. Распусціць у каструлі 100 г масла, памачыць у яго лыжку (толькі не драўляную), узяць на яе цеста і апусціць у гарачае масла, пратрымаць адну мінуту на адным баку, павярнуць на другі бок, так каб абодва бакі зарумяніліся добра.

Падаваць са смятанай або зялёным гарошкам.

# НЕКАЛЬКІ ПАРАД МАЛАДЫМ МАЦІ

Вы хочаце, каб у вас нарадзілася здаровае і моцнае дзіця? Тады паклапаціцеся аб сваім і яго здароўі яшчэ ў часе цяжарнасці: выконвайце гігіенічны распарадак жыцця, рэгулярна наведвайце жаночую кансультацыю і райцеся з урачом, правільна харчуйцеся і абавязкова рабіце спецыяльную гімнастыку для цяжарных.

* ✲ *

Пасля нараджэння дзіцяці правільна даглядайце яго, выконвайце рэжым харчавання, сну і гуляння, не забудзьцеся і пра гімнастыку для дзяцей.

* ✲ *

Ва ўсе ўзроставыя перыяды загартоўвайце сваіх дзяцей. Памятайце, што паступовае загартоўванне — самы надзейны сродак супраць хвароб.

* ✲ *

З самага ранняга ўзросту дайце дзецям магчымасць штодзённа займацца рухомымі гульнямі. У часе гульні дзіця пазнае навакольны свет і выпрацоўвае неабходныя навыкі рухаў.

* ✲ *

Заўсёды сачыце за паставай дзіцяці, дабівайцеся, каб яно правільна трымала сваё цела пры стаянні, хадзьбе і седзячы за сталом.

* ✲ *

У любым узросце прывучайце дзяцей да строгага захавання правільнага рэжыму дня, інакш кажучы, да ўстаноўленага парадку ў вучобе, рабоце, адпачынку, прыёме ежы і сне. Правільны рэжым жыцця — аснова здароўя.

* ✲ *

Калі вашы дзеці пойдуць у школу, сачыце, каб яны, рыхтуючы ўрокі дома, захоўвалі гігіену разумовай працы. Разумна арганізуйце гэтыя заняткі, уключайце ў іх фізкультурныя паўзы. Выхоўвайце ў сваіх дзяцей з малых год звычку для штодзённых фізічных практыкаванняў. Няхай яны робяць ранішнюю зарадку, часта бываюць на прагулках, займаюцца фізкультурай.



# КІТАЙСКІ СРОДАК СУПРАЦЬ ЧАРВЕЙ

Для таго, каб у муцэ і рысе не заводзіліся чэрві і даўганосікі, у Паўднёвым Кітаі ўжываецца вельмі просты сродак. У кожны куль мукі або рысу кладуць дзве-тры галоўкі ачышчанага і падзеленага на долькі часнаку, сочачы за тым, каб верхнія покрывы долек пры ачыстцы не былі пашкоджаны, бо часнок ад гэтага загнівае.



© PDF: Kamunikat.org 2023
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

### На дарогах крыецца смерць

# БОЛЬШ СУРОВАСЦІ

Выязджаеш раніцай з хаты, напрыклад, на кірмаш. Спадзяешся, што вернешся дамоў яшчэ перад змрокам. На кірмашы сустрэў ты знаёмых, пайшлі вы на супольны «абед», і ноч застае цябе ў дарозе. Але воз твой не асветлены фанаром, ты не ўзяў яго з дому, бо зусім не падумаў аб тым, што фанар табе патрэбны будзе ў дарозе. Забыў ты, што дарога, а перад усім шаша, прызначана не толькі табе! Па ёй імчацца розныя аўтамашыны, трактары, матацыклы... Іх фанары не могуць з бяспечнай адлегласці выследзіць неасветленага фанаром воза. І гэта ўжо пагражае няшчасцем.

Купіў ты сабе матацыкл. Ганарышся ім перад дзяўчатамі, сябрамі. У суседняй вёсцы свята. Едзеш матацыклам у госці. А ў гасцях, вядома, без гарэлкі, нажаль, у нас ніколі не абыйдзецца. П'еш колькі ўлезе... А потым хочаш паказаць, што ў цябе новы, прыгожы матацыкл. Вуліца вёскі запоўнена людзьмі. А ты імчышся на цэлы газ! Хай паглядзяць людзі, як ты «ўмееш» ездзіць матацыклам!

Ты не ведаеш, што міліцыйныя паведамленні прыносяць штодзень жудасныя весткі аб няшчасных выпадках на дарогах. Вось крывавая статыстыка за першы квартал бягучага года: у Беластоцкім ваяводстве: **61 асоба пацярпела смерць, 233 асобы засталіся цяжка раненымі; разбіта 83 матацыклы і 79 іншых сродкаў руху.**

Асноўныя прычыны — гэта перш за ўсё п'янства. Прычынай 27 няшчасных выпадкаў былі п'яныя матацыклісты, а 16 выпадкаў — п'яныя шафёры. З-за празмернай хуткасці было 23 няшчасных выпадкаў. Праблемай таксама з'яўляецца недастатковая апека над дзецьмі. Звыш 30 дзяцей было пакалечана ў выніку выпадкаў на дарогах.

Абавязкова трэба прызадумацца над гэтай, яшчэ няпоўнай, жудаснай статыстыкай.

Лікі крычаць: на дарогах крыецца смерць! Абыякавасць кожнага з нас толькі павялічвае яе крывавае жніво. Аднак не кожнаму чалавеку дастаткова добрага, перасцерагаючага слова. Таму міліцыя — як паведаміў на прэс - канферэнцыі ваяводскі камендант, падпалкоўнік Багуслаў Афтыка — упаўнаважана востра караць асоб, парушаючых правілы руху. Права кантролю маюць усе міліцыянеры. У працы міліцыянерам дапамагаць будуць спецыяльныя брыгады «армоўцаў». Плануецца таксама пашырыць маладзёжную службу руху. Міліцыя атрымае сучаснае абсталяванне да выкрывання дарожных злачынцаў. Ваяводскае аддзяленне міліцыі выступіла з патрабаваннем да ваяводскіх улад аб падвышцы штрафу за злачынствы на дарогах. Дагэтуль большасць штрафаў не перавышала 300 зл.

Ноччу ніякая фурманка, матацыкл ці самаход не мае права ехаць у далейшую дарогу, не маючы асвятлення. Такой суровасці патрабуюць сапраўды сур'ёзная сітуацыя і клопаты аб усіх тых, хто штодзень карыстаецца дарогамі, пераходзіць вуліцы, ходзіць на шпацыр з дзецьмі.

**В. Рудчык**

# ВАРВАРСТВА трэба спыніць

Едучы з вёскі Новае Ляўкова на станцыю Нараўка можна ўбачыць на паўночна - ўсходнім баку, у адлегласці паўкіламетра, лясок. Даўней на месцы гэтага ляска рос высокі і густы лес. Лес гэты завуць Плянтай і ён з'яўляецца грамадскай уласнасцю. За ім знаходзяцца сенажаці і пашы сялян Новага Ляўкова. Плянта расце тут ужо сотні гадоў і ў яе штораз глыбей запускаліся палеткі жыхароў. Сяляне рубалі старыя сосны, а на іх месцы нарасталі маладыя, прыгожыя сасонкі. Аднак некалькі год таму назад сяляне вёскі Новае Ляўкова накінуліся на гэты лясок. Усе рэзалі адзін перад другім, а часам нават без патрэбы. Ніхто не сказаў: — «мне не трэба» — кожнаму трэба, і амаль кожны яго рубаў. Хто не мае каня, стараецца пазычыць яго ў каго-небудзь, каб знішчыць некалькі дрэў, бо вялікай кары ці з сечанай хваіны не мае. Гэтае дрэва яшчэ тонкае і не надаецца на будоўлю. Застаецца толькі паліць у печы. Аднак некаторыя людзі выкарыстоўвалі дрэва на будоўлю, штыхеты ці стаўбы. І на гэтым можна было зарабіць. Свядомыя сяляне стараліся вылапаць такіх лесарубаў — «ударнікаў», каб усведаміць іх аб шкоднасці нішчэння лесу. У апошні час пераканаўшыся, што гэта не дае ніякіх рэзультатаў і «абаронцы» пайшлі па слядах «ударнікаў». З надыходам вясны і лета дзеці гоняць сюды пасвіць кароў, ходзяць па ягады і грыбы, якіх калісьці было вельмі многа. Цэлыя летнія доўгія дні дзеці праводзілі тут час — адпачывалі. Але бацькі хочуць знішчыць іх месцы гулянак. Па гэтым ляску застануцца лысыя пні і ўспаміны. Але гэтага можна пазбегнуць.

Усё залежыць ад сялян. Варта, каб сяляне ўстрымаліся перад варварскім нішчэннем лесу. Хай маладняк падрасце. Месцы, дзе калісьці былі пажары ад пакінутых вогнішчаў пастухамі, варта было б засадзіць маладымі дрэўцамі. Гэта зрабілі б яны сапраўды па-гаспадарску.

**Янка Цялушэцкі**

Новае Ляўкова

# КІНО

Праграма на перыяд ад 5—10 верасня.

**ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ**

**Навасады**
„Dowidzenia do jutra" (polski) 6-10 IX

**Нараўка**
„Domek z kart" (polski) 6-7 IX

**Кляшчэлі**
„Pigułki dla Aureli" (polski) 5-7 i „Mąż swojej żony" (polski) 8-10 IX

**Чыжы**
„Historia współczesna" (polski) 8-10 IX

**Чаромуха**
„Eroica" (polski) 5-7 i „Odwiedziny prezydenta" (polski) 8-10 IX

**Нарва**
„Prawdziwy koniec wielkiej wojny" (polski) 6-10 IX

**Белавежа**
„Awantura o Basię" (polski) 5-7 i „Czas przeszły" (polski) 8-10 IX

**БЕЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Орля**
„Milcząca gwiazda" (polski) 6-7 IX

**Боцькі**
„Dwoje z wielkiej rzeki" (polski) 6-10 IX

**Гродзіск**
„Pociąg" (polski) 9-10 IX

**Браньск**
„Ewa chce spać" (polski) 5-7 i „Wrzesień 1939" (polski) 8-10 IX

**Райск**
„Decyzja" (polski) 6-10 IX

**СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ**

**Драгічын**
„Celuloza" (polski) 5-7 i „Milcząca gwiazda" (polski) 8-10 IX

**Мілейчыцы**
„Orzeł" (polski) 5-7 i „Milczące ślady" (polski) 8-10 IX

**Нурэц**
„Trzy kobiety" (polski) 5-7 i „Historia jednego myśliwca" (polski) 8-10 IX

**Мельнік**
„W zatoce białych niedźwiedzi" (ZSRR) 5-7 i „Cień" (polski) 8-10 IX

**БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ**

**Супрасль**
„Pożegnanie" (polski) 5-7 i „Ludzie z pociągu" (polski) 8-10 IX

**Міхалова**
„Zamach" (polski) 5-7 i „Mąż swojej żony" (polski) 8-10 IX

**Гарадок**
„Ewa chce spać" (polski) 5-7 i „Wrzesień 1939" (polski) 8-10 IX

**Чарновесь**
„Ewa chce spać" (polski) 5-6, „Odwiedziny prezydenta" (polski) 7-8 i „Pigułki dla Aureli" (polski) 9-10 IX

**САКОЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Шудзялава**
„Historia współczesna" (polski) 6-10 IX

**Крынкі**
„Orzeł" (polski) 5-7 i „Ludzie z pociągu" (polski) 8-10 IX

**ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ**

**Новы Двор**
„Szatan z 7 klasy" (polski) 9-10 IX

# СІЛА ПЯЧАТКІ

**У пачатку гэтага года ў Талькоўшчыне, Сакольскі павет, сарганізавана сельгасгуртак. Да яго прыступіла 17 гаспадароў, выбіраючы старшынёй гуртка Уладзіміра Мушынскага.**

Амбітныя планы мелі гурткоўцы Талькоўшчыны.

— Раз назаўсёды пакончым з сярпамі, касамі, ды цапамі, а то і коні ліквідуем, — часта тут чулася.

— Вядома, жняярка — гэта табе не серп, а трактар — не конь, — разважалі ў Талькоўшчыне.

На першы пачатак пастанавілі купіць жняярку, а пасля ўжо і трактарам абзавесціся. З такім намерам яны падаліся ў банк, каб атрымаць належны ім крэдыт з фонду развіцця сельскай гаспадаркі.

— Пячатка ў вас ёсць? — спыталі там сялян.

— Нямашака.

— Ну, дык крэдыту не атрымаеце.

Так ні з чым яны і вярнуліся дамоў.

Давялося ізноў браць у рукі серп, касу ды каню паўней у жолаб падсыпаць аброку.

Зараз у Талькоўшчыне ніхто голасна не гаворыць аб жняярцы, трактары і механізацыі. Паветовае праўленне сельгасгурткоў таксама чамусьці маўчыць і ніхто з яго працаўнікоў не паказваецца ў Талькоўшчыне. А ўсё гэта з прычыны няшчаснай пячаткі. Падумаць толькі, якую яна мае ў нас сілу.

(вб)



# Справы адной грамады

**(Працяг са стар. 4)**

дала ў гэтым годзе 40 асоб. Зараз узнікла неабходнасць адкрыцця другой такой школы ў Вульцы Выганоўскай, таму што некаторым навучэнцам надта ж далёка хадзіць у Маліннікі.

Сяляне паасобных вёсак праяўляюць дбайнасць пра іх знешні выгляд. Вось, напрыклад, у Чэхах Заблотных гаспадары грамадскім чынам укладваюць брук, а ў Маскоўцах зрабілі тратуар.

Гаворачы пра дасягненні ГРН Грыгораўцы, трэба адзначыць, што яна мае ў сваёй працы надзвычайнага памочніка. З'яўляецца ім мясцовая партыйная арганізацыя, якая налічвае 70 членаў і кандыдатаў. Нядаўна яна папоўнілася новымі членамі. Тут разам працуюць старыя партыйныя дзеячы і маладыя члены ПАРП. Усіх іх аб'ядноўвае адна думка — каб як мага шпарчэй узнімаць гаспадарчы ўзровень сваіх вёсак, а тым самым спрыяць павышэнню матэрыяльнага ўзроўню жыцця сялян.

**МАЦЕЙ КАНАПАЦКІ**

# ШКОЛА

**(Працяг са стар. 5)**

— Што гэта за словы? — сярдзіта тыцнуў ён пальцам у Кастусёў сшытак.

— Валэ...

— А што гэта, пане мой, такое? — аж затросся ад злосці і гневу настаўнік. — З чым яго ядуць?

Корзун быў сынам засцянковага фальваркоўца з-пад Капыля. Бацькі яго стараліся гаварыць па-польску, усяляк зневажалі мужыка і мужыцкую мову. Дамашняя шляхецкая закваска выстаялася і ў сценах Нясвіжскай семінарыі, дзе выкладчык рускай славеснасці на кожным кроку высмейваў і здзіраў мясцовае шалупінне, як ён казаў, з мовы будучых настаўнікаў. Прыехаў Корзун у Мікалаеўшчыну заядлым працівнікам беларускай мовы, асабліва рэзала яго вушы тутэйшая гаворка:

— Што гэта за валэ, снапэ, панэ? Хіба нельга навучыцца па-людску гаварыць — валы, снапы, паны? Або гавечка, гавёс, галадка... Эх, цемната!

**С. АЛЕКСАНДРОВІЧ**

# Варта крытыкі

У гэтым годзе ў Дубічах Царкоўных на славу ўрадзіла жыта.

Не хапіла месца ў клунях для ўсяго збожжа. Давялося класці ў стагі.

У вёсцы ёсць два малацільныя агрэгаты, адзін уласнасць мясцовага сельгасгуртка, другі — належыць трактарысту Валодзі Семенюку.

Члены сельгасгуртка абавязаліся малаціць ва ўсёй вёсцы. Першы гаспадар свой невялікі стог малаціў 8 гадзін. Прычына ў тым, што рухавік часта псаваўся. Гэтая малацьба каштавала яму 576 злотых (гуртоk за гадзіну бярэ 72 зл.). Узялі яшчэ агрэгат некалькі гаспадароў, а рэшта, пераканаўшыся, што такая малацьба не па кішэні, махнула рукой.

А пагода вядома якая ў нас, усё дождж ык і дожджык. Збожжа трэба як найхутчэй сабраць з панадворкаў. Пачалі людзі прасіць трактарыста Валодзю, які ў той час абмалаціў усё жыта ў Чэхах Арлянскіх, каб памог аднавяскоўцам. Прыехаў Валодзя, але становішча не палепшылася, бо і яго агрэгат пачаў псавацца. Пайшла па вёсцы пагаворка: «у Чэхах малаціў, а да Дубіч прывёз ладзіць».

А стагі з кожным днём зелянеюць. Страт можна было б пазбегнуць, каб да малацьбы машыны былі належна падрыхтаваны.

(мп)

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.

Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.

Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wilcza 46. Nr konta PKO 1-6-100024.

Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie; 5 $ — w USA.

Nakł. 5000. Btk. B-1

